№ 3 Субота 25 Чэрвеня, 1921 году Год I.

# МАЛАДОЕ ЖЫЦЬЦЁ

ПЭРЫОДЫЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЕ МОЛАДЗІ.

Редакцыя і адміністрацыя: Вільня, Вострабрамская, 9. ‖ Цана асобнага нумэра 20 мк.



## АДНА З ВЫПУСКНЫХ ГРУП МАТУРЫСТАЎ

### 1-ай Віленскай Беларускай Гімназіі



з дырэктарам гімназіі гр. **М. Кахановічам** на чале (у сядзячым на крэслах радзе, пасярэдзіне) і некаторымі пэдагогамі гімназіі (абапал дырэктара), з-права: **кс. Ад. Станкевіч, Ф. Аляхновіч,** з-лева **Ф. Мікуліна. А. Луцкевіч,** і **М. Гарэцкі.**

У дольным (1-м сядзячым радзе з-права на лева (лічачы вокам фотографаванага) матурысткі: *Г. Б.-Асмалоўтчынка, Л. Макоўчычынка,* і *М. Васільлева.* У трэцім радзе (лічачы сядзячы рад пэдагогаў 2-ім) з-лева на-права (тым-жа вокам *Н. Арсеньнева, Г. Валадзімірчычынка, К. Недзьвеччынка, В. Акушчанка,* і *Г. Лабуцянка,* матурысты: *Б. Б.-Асмалоўскі.* У чацьвертым радзе з-права на-лев (тым-жа вокам) М. *Леткевіч, А. Клімовіч. В. Аляксюк. А. Пуська* і *А. Сасноўскі.*

# На дарогу у жыцьцёвы вір.

14 чэрвеня г. г. кончыліся выпускныя экзамены матурыстаў 1-ае Віленскае Беларускае гімназіі, па якіх у рады беларускіх змагаьнікаў прыбыло паўтары дзесяткі новых, поўных жыцьцёвага агня, сіл. Вялізарны гэта здабытак для беларускай нацыянальнай справы і мы, карыстаючыся спасобнасьцю, лічам сваім абавязкам падрахаваць здабытае і кінуць прамень сьвятла на найбліжэйшыя заданьні, найпільнейшыя пляцоўкі, якія мусяць быць запоўнены новымі прыбыўшымі сіламі.

Гаварыць тут'ка аб вазе стаўшагася факту — лішне: факт гавора сам за сябе. Прыбыцьцё ў рады працаўнікоў — змагальнікаў новых, маладых, больш—менш прыгатаваных сіл, бязумоўна адаб'ецца ў дальшым жыцьці, асабліва жыцьці маладзі. Сярод скончыўшых, на атэстат дасьпеласьці, гімназію, ёсьць шмат адзінак, што ўжо здрадзілі ў сабе нязвычайныя таленты ў рожных напрамках, рожных галінах мастацтва, веды і інш. Есьць сярод скончыўшых прыродныя поэты, якімі ўжо ганарыцца бацькаўшчына наша, ёсьць здольныя мастакі (маляры — художнікі) ёсьць ўрэшце тыя, што дагэтуль яшчэ ня выказалі выразна сваіх здольнасьцяў, але самаадданасьцю працы, каханьнем свае бацькаўшчыны і наагул волі, пазваляюць спадзеіцца па сабе вельмі і вельмі шмат. Апошніх найбольшы можа працэнт і ад іх, як і ад усіх наагул, спадзеймося запаўненьня многіх прабелаў у дасучаснай будыніне беларускай. Да апошніх, з усёй моцай пазываньня на абавязак церад бацькаўшчынай, зьвяртаем кліч не запірацца на дальш у самых сабе і сваіх, няраз цесных, асабістых пераконаньнях. Наадварот. Вы моладзь, каторым рок пашчасьціў здабыць магчымасьць зразумленьня жыцьця, вы, каторыя маеце ў душах маладых някранутыя, неацанімыя скарбы жаданьня ўсяго вышэйшага, духова — ідэовага, вы, каторым чужы яшчэ (хоць ня ўсім) сьветавы абман і пераваротнасьць, — вы з цэлаю юнацкаю сілай, пры ўваходзе ў сьветавы вір жыцьця, адкіньце з агідай ад сябе ўсё, што носіць на сабе празрэчную пляму кар'ерызму, адкіньце вузкія і хістаючыяся рашчоты на асабістае шчасьце, бо яго няма бяз шчасьця агульнага, адкіньце ўсё і ўся, што замінае бязпасрэднаму служэньню праўдзе. Вызвальцеся з усіх путаў духовых, якія налажыла на нас многавяковая няволя і ўзняўсіцеся ўвысь, панад земскія хлапоты, а стуль лепш распазнаеце правідловасьць тых ці іншых шляхоў.

Моладзь матурысты! Вы маеце ўсе шансы стацца лепшым сяменьнем на родную ніву беларускую. Вы кожны з-асобна можаце стацца ўспыхаючай іскрой сярод пануючай цьмы, зьвязываючым цэмэнтам агульнай массы. Вы, моладзь матурысты, кожны з-асобна можаце стацца разаграваючым гарном, узакруг каторага будзе групавацца, і запаляцца да працы лепшы элемэнт маладых нашых сіл; можаце стацца цэнтрамі буйнае і плоднае працы і ўсё гэта, усё можаце зложыць на сьвяты Аутар Службы бацькаўшчыне — Беларусі. Ад вас і вашае волі залежыць, ці вы станецеся годнымі ўскладаных на вас найслушнейшых спадзееў, ці астанецеся пасыўнымі нячулымі на голас найвышэйшага ідэалу. Рок даў вам, што даць мог. Цяпер усё ад вас залежа: вы пакажаце, ці годны свайго рока, вы апраўдаеце зложаныя вам здольнасьці, іх з'ужыткаваньне, за каторыя вы цалком і з усёй срогасьцю суджаны і адпавядальны будзеце.

Перад разстаньнем з усімі сваімі калегамі, а з некаторымі мо' ўжо на заўсёды, кіньце яшчэ раз вокам на абраз стану, ў якім знайходзіцца наша многапакутная бацькаўшчына — Беларусь. Хай раз хоць на разстаньні заб'ецца ў вас сэрца верных сыноў, дачок свае зямелькі, свайго нарсду. Хай раз хоць зашчэміцца сэрца ад болю над доляй свайго народу, каторага вы лічацесь безпасрэднымі патомкамі і каторага лёс у найбліжэйшай прышласьці павінен аперціся на вашы маладыя плечы. Ня страшцеся лёсу! Ня ўгінайцеся прад цяжарам яго, бо бывае ў жыцьці цяжар яшчэ большы. Раз зможаныя не паддавайцеся безнадзейнасьці, а напэўна зможаце нанова. І наадварот: змогшы, не паддавайцеся пакусе безклапотнага адначынку: гэта зварожа вам нямінучую бяду пасьці ахвярай бліжэйшых змаганьняў... Гэтыя запаведзі хай запомняцца вам, маладыя душы, на вашае далейшае жыцьцё, жыцьцё самабытнае, незалежнае...

Гэтак! Гады дзяцінства мінулі і вам ўжо, мінулі безпаваротна. Мінулі, прайшлі... Наступае самае неўмалімае, срогае жыцьцё, ў каторым той чуецца найшчасьлівейшым, хто аб шчасьці сваім найменш думае.

Дык у шчасьлівую-ж гадзіну, ідзіце на роднае поле, пазнайце яго яшчэ бліжэй, а пазнаўшы пакахайце, як кахалі яго нашы далёкія прадзеды і як каханьне гэта ўваскрасілі у сэрцах сваіх і нам перадалі нашы слаўныя папярэднікі. Дык-жа з Богам у жыцьцёвы вір!

# Падзяка.

Рэдакцыя „М. Ж.“ атрымала надовічы „Падпісны Ліст № 1“ з гэткімі ахвярамі на нашу часопісь:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. | Э. Л. | 200 | мк. п. |
| 2. | Янка Станкевіч | 100 | „ „ |
| 3. | Т. Бай | 1000 | „ „ |
| 4. | * * | 500 | „ „ |
| 5. | Л. Дубейкоўскі | 200 | „ „ |
| 6. | В. Кістарыха | 100 | „ „ |
| 7. | У. Знамяроўскі | 500 | „ „ |
| 8. | В. Лемеш | 100 | „ „ |
| | Разам | 2700 | „ „ |

Шчырая падзяка!

*Рэдакцыя.*

З. С. Надсона.

* * *

Мой таварыш, заморавы, змучаны брат,
Хто-б ня быў — не валіся душой:
Хай няпраўда і злосьць паўнаўладна кіпяць
Над аблітай сьлязьмі ўсей зямлей.

Хай разьбіт, асьмяяны сьвяты ідэал,
І цячэ хай нявінная кроў: —
Вер, настане часіна і згіне Ваал,
Запануе каханьне ізноў.

Не ў цярновым вянку, не ў цяжкіх ланцугох
І ня з крыжам на слабых плячах, —
Прыйдзе ў сьвет яно ў славе, ў лаўровых вянкох,
З яркім сьветачам шчасьця ў руках.

І ня будзе на сьвеце ні сьлез, ні нуды,
Ні бязкрыжых магіл, ні рабоў,
Ні бяды, беспрасьветнай і цяжкай бяды
І ні шаблі, ні карных слупоў.

О мой брат! То ня мара той сьветлы прыход,
Ня пустая надзея адна:
Агляніcь, — злосьць ўвакруг надта даве народ,
Ноч ўвакруг ўжо занадта страшна.

Сьвет заморыцца з цяжкіх, удушлівых мук,
Непатрэбнай цяжкой барацьбой,
І ярмо скіне, цяжары вечных прынук,
Пойдзе сьцежкаю к праўдзе сьвятой

У. Каранеўскі

# Думы і развагі аб арганізацыі.

Вялікая і сьвятая справа арганізацыі беларускай моладзі ўжо пачалася. На першы наш кліч „арганізуймося!“ рэхам адклікнуліся чуткія сыны бацькаўшчыны, прышлае пакаленьне. З усіх дасягальных канцоў Беларусі пасыпаліся нязьлічаныя прывітаньні, водклікі нашых равесьнікаў. Той агонь, што разагрэў і злучыў да супольнае працы маленькую групку, — ужо гарыць. Полымся яго шыбае ува ўсе закуткі, адаграваючы і асьвятляючы недасяглыя цемры.

Усе адклікнуўшыяся галасы згодна сьведчаць, што міліонны на свайму лічбоваму складу і дагэтуль безгалосы **в о л а т** (вялікан, асілак) **б е л а р у с к а й м о л а д з і** ўжо прачхнуўся. Моладзь беларуская дасьпела ўжо да зразумленьня сваёй вагі пры перабудовываньні будыніны ўсенароднага жыцьця. Адна задача стаіць перад рвучайся да жыцьця беларускай моладзьдзю, задача арганізацыі, задача палучэньня раськіненых сіл у адзін неразарвальны ланцуг, у адну моцную арганізацыю.

Значэньне і моц гэткага гуртаваньня беларуская моладзь ужо зразумела. Астаецца сам факт арганізацыі, прыступіць да каторага трэба ўраз-жа. Ня можна тут сьцягаваць і аднэй гадзіны бо:

,,што ня возьмеце сягодня,
таго і заутра вам ня узяць.

„Прарок“ Я. Купалы.

Наскольки работа, каля арганізацыі сьпешная, настолькі яна і адпавядальная. Дзеля гэтата прыступаць да яе трэба з магчыма шыршым і глыбшым расназнаньнем варункаў працы і тэй матэрыі, якую бярэцца за падваліну да праэктаванага будынку.

Гэтулькі прымамся трэба ведаць бяручаму ў рукі руль арганізацыйнай працы. Ведаць арганізатару трэба яшчэ тое, што ягонай задачай з'яўляецца запраўленьне да працы ўсіх сябраў арганізацыі, а не асобных толька, „здольнейшых“ яе адзінак. Шчыт пажаданасьці будзе дапятым, калі ўсе сябры будуць працаваць згодна. Апошняе хай глыбака западзе ў маладыя душы новаўступаючых асьпірантаў. Сазнаньне сваіх абавязкаў ува ўсіх сяброў хай будзе грунтоўным і дасканальным. Трэба добра сабе запамятаць, што сам акт запісаньня ў кнігу сяброў, унясеньне мінімальнай складкі і атрыманьне якога там квіту,—усё гэта далёка і далёка ня ёсьць самай працай на карысьць арганізацыі; гэта ня ёсьць навет права на сяброўства. Уся гэта фармальнасьць ні болей і меней, як права да працы, праз катарую здабываецца самое сяброўства.

Праца і толька праца дае кожнай людзкой адзінцы імя чалавека, дык тым больш права на імя сяброўства можа быць здабыта толька працай. Рожніца між працай на права імя чалавека і імя сябры тая, што праца на званьне сябры павінна быць адным сьцягам ідэйна-сьведамага чыну на рэч агулу, без якой небудзь рэзэрвы на карысьць уласную. Сябру арганізацыі, а асабліва арганізацыі моладзі, панінна быць чужой і пастыднай падобная рэзэрва. Улажыць сваю душу ў разпачатую справу, вось чын, якім павінна азначацца кожная маладая душа, выступаючая на арэну публічнага, а знача і арганізацыйнага жыцьця.

Праца толька мазольная, цяжкая і разам з тым бязупынная, дае чалавеку права называцца сябрам грамадзянства у рожных ягоных відах.

Дасягальнасьць мэтаў праз працу залежыць ад таго, на сколька праца гэта будзе творчай, бо гэткая толька праца здольна ачысьціць і паднесьці агульны застой. Каб праца была творчай, патрэбна поўная згода паміж усімі працадаўчымі адзінкамі. Адзінкі здзяйдаваны на ўступленьне ў арганізацыю павінны ўжо ясна сабе прадставіць той абавязак, які пры гэтым на сябе ўскладаюць, павінны заклясца, прысягнуць, што або ўстаяць на выбранай пляцоўцы, або там згінуць. Пастыднае бегства перад відмом змаганьня не павінна кляймiць маладой душы. Наадварот, пляцоўкі най-

больш небязпечныя мусяць быць абсаджаны толька моладзьдзю, у шыршым апошняга слова значэньні.

Згоднасьць у працы дасягаецца слухмянасьцю загадаў кіраўніцтва ува ўсіх ягоных відах. Найбольш замінае гэтаму правідловаму ходу спраў няўмеснае разграніченьне паміж грамадзянскай вольнасьцю і грамадзянскім абавязкам. Няма бадай у нашы часы другога, так шкодна скрыўленага, скалечанага паняцьця, як паняцьце вольнасьці і абавязку. Гэтыя два паняцьці гэтак зьліліся ў паняцьці сучаснай моладзі асабліва, што яна іх амаль ня ідэнтыфікуе; тымчасам гэта два зусём праціўныя полюсы. Пры нармаваньні гэтага хвараблівага паняцьця насамперш паставіць трэба абавязак. па спаўненьні якога мае слушнасьць і жаданая вольнасьць, але толька вольнасьць і ніколі—самавольле.

Здараючыяся у арганізац. жыцьці непаразумленьні што да паняцьця абавязку і вольнасьці з'яўляюцца,бязсумніву галоўным тормазам да творчай колектыўнай працы. Зьніштожыць і зараўнаць гэту рану, як горкі асадак усесьветнага перавароту,—першая задача арганізуючайся моладзі. Конечным працягам апошняга з'яўляецца поўнае зарачэньне ў справах грамадзкіх асабістага „я", складаючы яго на аўтар агульнае маемасьці. Добра трэба памятаць, што фальшыва зразумелае паняцьце вольнасьці і свабоды вядзе да рабства, да няволі душы і цела.

Усё гэта зважыўшы і ацаніўшы прыступаймо, беларуская моладзь, да найшырэйшае арганізацыі сваіх няшчэрпаных сіл. Вермо, што наша будучыня ў нашых руках і як мы яе уймём, такой яна і астанецца. Мы, маладое пакаленьне, бачам,што ў сьвеце няма нічога мацнейшага,нічога пэўнейшага, як арганізацыя. Прывучаймося-ж заўраньня жыць жыцьцём грамадзкім, жыцьцём для справы, для ідэі. Прывыкаймо разьвязываць загадкі жыцьця, прыглядаймося да ягоных формаў, бо лепш быць дзіцём грамадзянства ў моладасьці асабістай, чымся рабіць грамадзкія памылкі ў гадох асабістай дасьпеласьці.

Дык-жа разам за арганізацыю, а праз яе за працу над самапрыгатаваньнем да шырокага ідэйна—творчага жыцьця.

Разам! Наперад!

А. Коўзан.

---

## Мурашнік.

(Байка)

Пасьвячаецца беларускай моладзі.

Пад кустам ялаўца, у гушчы
Вялікае адвечнай пушчы,
Між спарахнелых чыста пнёў
Паўстаў будынак мураўёў.
Увесь дзень да вечара ад раньня
Адважна, сьмела праца йдзе,
Бярэ аж радасьць пры ўгляданьні,
Здаецца песьня аж гудзе:
„Мы мураўі, мы дзеці працы,
Ня дзела нам, што хтосьці сьпіць,
Будуем шчасьця мы палацы,
Дык хай жыцьцё гудзе, зьвініць.
У працы знойдзем мы збаўленьне
І ад нуды і ад бяды,
Хто іх баіцца пакушэньня,
Мы заклікаем іх сюды.
Нам праца верыць памагае,
Дае спадзеіцца, лічыць,
Што не заўсёды зло змагае,
Што праўда ўсюды загучыць."

І. Д.

---

# Беларуская мова

гісторыя ейнага разьвіцьця і галоўныя прычыны заняпаду (кароткі агляд гісторыі разьвіцьця беларускай мовы ад 13 да канца 17-га сталецьця).

З прац па аддзеле беларусазнаўства пры Віленскім Унівэрсытэце.

Беларуская мова, як і сам народ да 13-га сталецьця былі толька адным дыялектам сям'і агульнага рускай. Ход гістарычных выпадкаў другой паловы 12-га сталецьця зрабіў вялізны пералом у жыцьці некулькіх, з сабой суседуючых, рускіх плямёнаў. Гэтымі былі: крывічы, дрыгвічы, радзімічы, а часьцю вяцічы і северяны. Дзьве ўнешнія прычыны: 1) ваеннае выступленьне на гістарычную арэну суседней Літвы і 2) татарская навала, збурыўшая Усходнюю Русь і пагражаючая Заходней, — змусілі павыжшыя заходне-рускія плямёны, цясьней зблізіцца з сабою, дзеля супольнай абароны ад пагражаючай небасьпекі.

Згуртаваўшыся гэтак заходне-рускія плямёны здолелі абараніцца ад татарскай навалы, чаму ў значнай меры памагло географічнае палажэньне гэтых плямёнаў, але ня здолелі яны абараніцца ад ліцьвіноў, скуль такой географічнай перашкоды ня было. Волей-ці-няволей мусіў Полацак ужо ў канцы 12 сталецьця мець якіясь зносіны з Літвою. Праз ўсё 13 сталецьце трасьлі татары Усходней Русьсю і Заходнія яе браты шукалі ратунку ў суседней Літве. Гэта апошняя так-ці-йнакш прыймала пад сваю апеку застрашаных суседзяў, бяручы гэтак ва сябе роль зьбіральніцы ўсіх суседуючых рускіх плямёнаў.

На гэт'кае, найчасьцей дабравольнае, аб'яднаньне Заходне-рускіх княстваў пад Літвою мела ўплыў і тое ўнутранае палажэньне многіх яшчэ незалежных рускіх княстваў, што разладам і спрэчкамі паміж сабой кланіліся да нямінучага ўпадку.

Стаўшаеся аб'яднаньне заходне-рускіх княстваў з Літвою было, такім чынам, адзіным выхадам для першых з іх ўнутранага і міжусобнага бязладзьдзя,—з аднэй стараны і, ўнешней пагрозы татарскай навалы—з другой.

Згуртаваўшыяся гэтак пад уладаю Літвы рускія плямёны пачалі творчую культуральную працу, зародкі каторай яны шчасьліва перахавалі. Усе ўнешнія і ўнутраныя абставіны давалі найшырэйшую магчымасьць перахаваным зародкам культуры разьвіцца ў магутную духовую сілу, патрапіўшую аб'яднаць усіх вучасьнікаў. І мы бачам, што ў працы гэтай узялі ўчасьце ўсе аб'яднаўшыяся пад Літвою рускія плямёны, заціраючы гэтак міжусобныя межы і зьліваючыся ў адзін народ, у адну нацыю-беларускую. Гэтак тры галоўныя заходне-рускія плямёны: крывічы, дрыгвічы і радзімічы, працуючы на ідэйна-культуральным полі палажылі пачатак беларускай нацыі, а знача і беларускай мове. Выпала гэта пад канец 13 і ў пачатках 14-га сталецьцяў. Усё 14 сталецьце было адным суцэльным працягам дальнейшага аб'яднаньня заходне-рускіх плямёнаў

пад уладаю Літвы і кончылася яно аж у пачатках 15 сталецьця (у 1404 г. было далучана княэьства Смаленскае).

А. К.

(Ц. д. б.)

# Малітва.

Божа! Праведны, прадвечны,
Ты на ўсіх з нябес глядзіш:
На людзей тых, што з цярпеньнем
Зносяць беды ад усіх,
І на родную старонку,
Што пад пылам там ляжыць,
На сыноў, што сваёй працай
Хочуць бруд з зямелькі змыць.
Дай ім, Божа, сілы моцнай
Зямлю-матку ўваскрасіць,
Каб чужыя не сьмяялісь,
Што яна ў пылу ляжыць.

М. Парашкевічанка.

# Пэрспэктыва беларускага школьніцтва на 1921--22 вучэбны год.

Беларуская моладзь, як і беларускае жыцьцё наагул, выкалееныя з свайго натуральнага русла і дагэтуль ня здолелі ўвайсьці яшчэ ў сваё русло нормальнае. Справа у тым: усе Віленскія як ніжэйшыя так і сярэднія школы перапоўнены беларускаю моладзьдзю, якая становіць там далёка пераважаючы працэнт. Пры стыканьні з гэтым беларускім элемэнтам часта і амаль заўсёды прыходзіцца чуць горкія фразы, напампаваныя ім супроць роднага школьніцтва беларускага. Гэтае няшчаснае пакаленьне настолькі засьлеплена, застрашана перад усім сваім родным, беларускім, што яно дрыжыць і сінее на адзін толькі аб ім ўспамін. Пытаньне: чыя гэта работа? Каму патрэбна марочыць галовы малым, нявінным шчэ істотам, гэткім затрутым ядам? Хто яшчэ ў нас ёсьць на столькі наіўна-глупы, каб ня відзеў таго, што сваёй работай пад сабой-жа яму капае?... Сказаць можна шмат яшчэ больш, але гэта назавуць можа людзі „політыкай“, ад каторай мы моладзь адхрышчываемся. Дык змоўкнем покуль на гэтым. Цьвердзім толькі, што дорага нам наша імя, наша пачуцьцё нацыянальна—грамадзкае, таптаць каторага ніхто ня сьмей! Бліжэй да рэчы. Павыкшая „работа“ прычынілася да таго, што ў Віленскіх беларускіх пачатковых школах, каталіцкі беларускі элемэнт прадстаўляе зьнікомы толька працэнт. Дзякуем вам „дабрадзеі“.

— Іншая справа з Беларускім школьніцтвам сярэднім у Вільні, напр. у Беларускай гімназіі, где каталіцкі (не гаворачы ужо, натуральна, аб іншых хрысьціанах) элемэнт (ува ўсіх васьмёх клясах) досыць моцны.

Што-ж гэта даказуе? А проста тое, што хлапатлівае „дбаньне“ не дасягла, не затрула ўсяго і што ёсьць тыя адпорныя арганізмы, якім яд рассеваны ня можа даць раданькі і чуецца бязрадным. Гэта адзін варожы беларусом фронт за мінулы вучэбны год. Ня горш дзеіцца і з фронтам проціўляжачым, з моцнай закваскай расейшчыны. Найлепшым доказам гэтага з'яўляецца той факт, што сялетні выпуск 1-ае Вілен. Беларускае гімназіі, як і наагул усе старшыя клясы гэтае гімназіі, маюць у сваіх радох вельмі паказны працэнт моладзі пакінуўшай усё чужацкае, наноснае і скланіўшаеся да свайго роднага, беларускага.

Апошні факт, як і ўся цэласьць, даюць вельмі моцную спадзею, што Беларуская гімназія ў самым хуткім часе станецца глаўным вогнішчам і асяродкам беларускай вучашчайся моладзі. Трэба толькі запэўніць гэтай гімназіі нормальны ход разьвіцьця. На гэта перад усім трэба ськераваць туды, на прышлы вучэбны год, магчыма ўвесь беларускі вучнёўскі элемэнт.

Патрэбна гэта тым-больш дзеля таго, што рожныя наіўна варожыя нам беларусом сілы разьлічаюць на нашу-ж несьвядомасьць і арганізуюць на прышлы вучэбны год цэлы рад заманчыва-здрадных сілоў, маючы на мэце улавіць і высасць несьвядомую здабычу.

Дзеля гэтага зьвяртаемся да вас беларуская вучнёўская моладзь з братней перасьцярогай ня дацца злавіць на падсуваную вам прынанку. Ніхто хай з вас ня буздзе здраднікам свае роднае справы. Усе як адзін гуртуймося каля беларускай школы: яна нам толькі дасьць здаровую духовую страву. Хай праміне безпаваротна той час уціску, калі школа крывіла бязміласэрна нашы маладыя душы і вылзірала з іх ўсё, што чалавеку ёсьць найдаражэйшае. Хай прамінуць часы блуканьня беларускай моладзі па чужых кутох. Дачакаліся мы ўжо незраўнана лепшых, шчасьліўшых часоў. Маемо свае ўласныя школы, гімназіі, а навет унівэрсытэт (у Менску); маемо ўсе данныя, каб выйсьці ў сьвет з праўдзівай, незатрутай ведай. Дык карыстаймо-ж з гэтага лару поўнасьцю, бо калі цяпер гэтага ня зробімо,—астанемся на векі мо' духовымі вырадкамі, калекамі. Запішамо глыбака сабе ў душы, што для беларусоў беларуская школа і з гэтым толька клічам спатыкаймо новы 1921/22 вучэбны год.

Вучань-беларус.

* * *

Гэй вы, брацьця!
Досыць спаці,
Уставаць пара!
Ад малога,
Да старога,
Устаньма як гара.
Бо так болі
У нядолі,
Жыць неўмагату!
Зносіць зьдзекі
І апекі
Гора і бяду.
Мы ўсё спалі
І маўчалі,
Ждалі лепшых дзён,
Дні-ж за днямі
Йшлі вякамі,
А з вачэй нам сон,
Не спадаець,
А зліпаець
Вочы дзень за днём.
Дык прачхнёмся,
Аглянёмся
На сябе кругом,

Што мы маем,
Што чакаем,
Дзе канец бядзе,
Воля, шчасьце
І багацьце,
Скуль да нас прыдзе?
Гэй, браточкі,
Галубочкі,
Шчасьце мае ць той,
Дзе хоць беднасьць
Але еднасьць,
Станьма-ж грамадой!
Як за дзела,
Дружна, сьмела,
Возьмемся, браты.
То і волю,
Й лепшу долю,
Будзем мець тагды.

Вінцук Сталяронак.

ПРАГА, 24 IV 21.

# Ліст у рэдакцыю.

Маладыя Грамадзяне Беларусы!

Шчыра дзякую Вам за прысылку №№ 1 і 2 „Маладога Жыцьця“ і надта прашу прысылаць мне і дальш кожны нумар гэтага сымпатычнага часапісу...

Аб карысьці Вашага пачынаньня ня трэба і гаварыць. Такая важная рэч, як выхаваньне моладзі ў нацыянальным духу і роднай мове павінна стаяць на першым мейсцу ў нас, як і ў іншых людзей. Людзі, якія гэта даўно зразумелі, хоць яны сваім лікам і абшарам зямлі ў шмат разоў меншыя як мы, — ужо даўно жывуць у сваіх незалежных ні ад каго бацькаўшчынах багата, вясёла ўсестаронье разьвіваючыся. Яны ганарацца сваёю нацыяю і мовай, а за гэта кожны чужак іх паважае. Людзі, якія страцілі сваё нацыянальнае пачуцьцё,—станоўяцца гноем на чужое поле.

Не глядзіце сынкі і дачушкі маткі Беларусі на таго, хто чураецца яе і сароміцца свае мовы. Ён потым зразумее сваю абмылку і будзе прасіць каб яго прынялі ў лона бацькаўшчыны, але ўжо будзе позна. Гэтых прыкладаў мы ўжо цяпер бачам вельмі шмат. Будуйце сваю бацькаўшчыну, сваю хату на роднай зямлі, ў якой пасьля цяжкай працы, з чыстым сумленьнем супачынеце спакойна, а за гэта Ваша патомства будзе Вам удзячна, бо будзе ганарыцца Вамі. Той час, у які мы засевалі чужое поле лепшым насеньнем (Дастаеўскі, Адам Міцкевіч, Касьцюшка, Кандратовіч (Сыракомля), Сенкевіч, Оржэшкова і шмат інш.), якімі ганарацца чужакі,—ужо прайшоў; прыйшла пара працаваць на роднай ніве. Дык з Богам да працы браты!

Мікола Вяршынін.

P. S. 1) Мне здаецца, што было-б карысна, каб друкавалі у часапісе артыкулы маладых карэспандэнтаў, хоць яны і ня цікавы., каб прыдаць вясковай моладзі больш ахвоты да роднай справы, як гэта калісь рабіла „Наша Ніва“. Або выдаваць другі (малы) часапіс для такіх карэспандэнтаў.

2) „Клюб Беларускай Моладзі“ вельмі патрэбен. Пры ім апроч іншых кружкоў, мог-бы з'арганізавацца кружок турыстаў-фатографаў і маляроў (художнікаў) для змаляваньня пекных мяйсцоў, якіх у нас на Беларусі непачаты вучал. Мог-бы выдавацца ільлюстраваны журнал.

М. В.

# Перасьцярога.

Насьлядаваньне з Гэнры Лёнгфэльлё

Прыпомніце жыдоў апавяданьне
Аб мужу тым, што разадраў рукой,
Як птушку, лева. Біблії пісаньне
Нам кажа: брудны і сьляпы ён быў,
Ад ворагаў цярпеў ён насьмяханьні
І жорны цэлы дзень круціў.
І вось, нарэшце госьцям на забаву
На п'яны, тлумны пір прыведзены ён быў...

У роспачы вялікай абхапіў
Слупы вялізнай храміны рукамі,
І калыхнуліся каменныя грамады,
Муры пасыпалісь са ўсіх бакоў...
І згінуў сам няшчасны ён гэрой,
Але і тысячы схаваў разам з сабой.

В. Мурын - Базыльянскі

# Агонь.

Загас захад... Лес сьцямнеў.. Ласкай прывабіла ноч фарбатныя верхавінкі хвой, пацалункамі сьцішыла вечныя шэпты асін... Цішыня... Высока ўздымаецца полымя. Лятуць зоркі—іскры да сваіх сястронак у небе... Лятуць чырвоныя зоркі, да зорак белых і, не даляцеўшы, губляюцца ў цемнаце... Чырвонаю хваляй сьвятла заліваюцца сівыя імхі. Чырвоныя блікі кладуцца на стромкія камлі соснаў. Здаецца, ясная паляна чырвоным царствам агня. Шумы вогнішча зьліваюцца з глухімі шэптамі лесу — прародзіны сьпеваў і сплываюць кудысьці ўніз, праз лясы, да рэкі...

Дзіўна робіцца на душы... — Вочы не адрываюцца ад вогнішча.., Полымя горача дыхаець... Вабіць-а-вабіць... Прыгожая сьмерць у вагні: да сьмерці зацалуе агонь... Не пашкадуе палючых ласкаў. Зацалуе, а ня скажа нічога... Таксама дзіўна й нячутна будзе падыймацца да вячэрняга неба...

І хацелася мне зразумець тых, хто пакланяўся агню, як богу, хацелася перанесьціся да часаў панаваньня агня, да часоў, калі агонь быў — ўсё, калі агонь быў вялікі бог... І хацелася мне зразумець тых, хто пасьля караў людзёў сьмерцю ў вагні. У вагні, які дае жыцьцё, але й сьмерць. Хацелася зразумець тых, для каго агонь быў—пытка...

І хацелася мне зразумець тых людзёў, якія баяліся агня, як зорага, бо ён руйнаваў іх дамы і паліў іх скарбы...

І хацелася мне зразумець тых людзёў, якія як да далёкага шчасьця ў жыцьці, йшлі да маленькага агоньчыка цёмнай зімовай ноччу. Зразумець іх, бо агонь быў ім—пуцяводнаю зоркай...

Хто правы? Тыя—якія верылі агню—богу;
Тыя—якія баяліся агня—пыткі;
Тыя,—якія бараніліся ад агня—ворага й тыя, якія йшлі да агня—надзеі?..
Хто правы?

Ня было адказу.... Нячутна падымалася полымя вогнішча... Нячутна дрыжэлі чырвоныя адбіткі на камлёх соснаў. Рабілася дзіўна й смутна... Маўчаў агонь, маўчаў лес, маўчала душа... Маўчаў розум... а сэрца, — сэрца як заўсёды білася хутка й няроўна... — „не глядзі ў вагонь, не глядзі ў вагонь", стукала яно— „у вагні—сьмерць!"

І быццам у адказ яму ночны вецер, узьмятнуўшы да самага неба чырвонае полымя вогнішча, падняў залаты пучок зорак-іскраў, разьвеяў дым у цемнаце й паляцеў далей... А галінкі развярушаных ім хвоек закалыхаліся й зашапталі праз сон:

„Праславім агонь, праслаўім агонь!

Ад яго — цяпло, ад яго — сьвятло, ад яго— жыцьцё!".

—Н—.

# У альбом Г. А.

У грэкаў ёсьць цікаўны анэкдот
Аб богу крытыкі, Мамосе злым:
Убачыўшы раз неяк Афродыту
Ен розумам хацеў блыснуць сваім.
Але перад яе блыскучаю красой,
Як ён ні напружаў крытычны розум свой,
Аднак, пастаўлены ў цяжкое затрудненьне
І толькі ёй адно сказаць мог ў абвіненьне:
„Тваіх сандалаў скрып невынасім".

Няхай крычаць, што вы страшэнная какетка,
Няхай крычаць: чарцёнак у вас сядзіць,
Няхай крычаць. Калі за вамі сьвіта
Паклоньнікаў з надзеяю сьлядзіць,
Тагды няхай крычаць, багіня Афродыта.
Мамос няхай ідзе, і замаўчыць Мамос,
Саромліва спусьціўшы доўгі нос.

В. Мурын-Базыльянскі.

# ЭСКІЗЫ.

Гэта было даўно...

Ноч.... А можа і вы калі бывалі ў беларускай весцы ноччу, калі зморaны надсільнай працай сьпіць селянін-мужык, падклаўшы пад галаву жорсткую, пакрытую мазолямі, далонь? Ціха сьпіць ён. І сьніцца яму пакрытае буйнай руньню поле— багаты будзе ураджай, шмат грошы можна будзе схаваць. Толькі тры бутэлькі новенькіх папераў закапаў ён сёлета ў зямлю. Што-ж! будзе чацьвертак, і ціха сьпіць ён, сьпіць ціха і баіцца, каб хто не даведаўся аб яговых думках. О, селянін! чаму табе ўсё прыходзіцца ціха спаць? Раней спаў ты ціха, пакорны свайму лёсу, ціха спаў, каб не маглі цябе знайсьці і важкімі пінкамі прабудзіць да цяжкай працы на паноў, а цяпер баішся сваей мінуўшчыны, баішся цяпер, пан селянін, зрабіцца зноў мужыком? І гэтым ты спадзяешся купіць сваю прышласьць?.. Пакінь свае думкі, пакінь іх. Пабудуй раней сваю бацькаўшчыну, свой край, і толькі ў ім ты даб'ешся шчасьлівай прышласьці...

Мы сядзелі на лавачцы ўробленай ў плот. Там у доле разсьцілаецца туман і скрозь гэтага белага туману ледзь-ледзь віднеецца цёмнае дрэва. Месяц аблівае сваім срэбным сьветам вуліцу і нас грэшных людзей на гэтай грэшнай зямлі. Чаму так ціха? І чаго гэтыя зоркі так мігаюць?.. Мігаюць, але маўчаць, яны сьмяюцца з мяне?.. І ў мяне на душы робіцца неяк сумна. Навошта я прыехаў сюды, чаму ўсё гэтак зладжылася?.. Чаму так ціха?

— Аля, скажэце чаму так ціха?..

Чаму я люблю гэтыя сьветлыя, ціхія ночы? Яны навяваюць маркотна-далікатнае пачуцьцё, яны хістаюць душу, робяць яе мягкай, яна, здаецца, расплываецца ў цёплым паветры. Хораша!.. Божа мой, як хораша на весцы ў цеплую летнюю ночку. Там далёка негдзе забрахаў сабака, на хвіліну перарваў урачыстую цішу; там негдзе раздаўся сьпеў загуляўшых хлапцоў, але яны прайшлі... Зноў ціша!

— Чаму так ціха, Алечка?..

...Я гляджу на гэтую дзяўчыну седзячую радам са мной, і яна мне здаецца такой добрай, прыгожай... Успамінаецца нешта прыемнае, даўняе напоўзабытае.

А там у доле туман; белы, сівы, як стары, туман. І пасярод яго, як чорная мара, цямнее дрэва. Вы бачаце: яно тоне ў тумане як бязпрытульны мандраўнік апынуўшыся ў чужой старонцы. Безпарадны, мізэрны, ён ня ведае куды бегчы-хапацца, што рабіць; ён спусьціў рукі, схіліў галаву на грудзі і змоўк... Аб чым ён думае?..

— Аля! Чаму ён маўчыць, чаму так ціха?

— Чаму яно маўчыць? Які вы дапраўды дзіўны. Калі нейкае там дрэва маўчыць, то гэта зусім мне зразумела; але вось чаму вы маўчыце? Чаму маладыя сілы нашага беднага краю сьпяць і халодным вокам глядзяць на ўсё ўвакол?!..

І дзіва: гэтае простае пытаньне, гэты просты адказ на ўсе мае разважаньні, прымусілі мяне пачырванець.

Дзякуй, табе, Беларуска!..

* * *

Я йшоў па вуліцы. Цёмна блакітная дальчыня так вабіць да сябе сваім хараством. Далей, далей!... Дрэнна жыць ў гарадох, дрэнна жыць: зашмат там ёсьць злых людзей. Далей, далей!.. Я йшоў далей, я-ж вам кажу: я йшоў далей па тлумнай вуліцы, я-ж вам кажу: мне няма чаго рабіць і я мандрую па сьвеце, як Анатэма. Вось нейкі дом, кажуць, дом Каханьня. Адчынена вакно і праз яго чуваць, як нехта пяе калыханку. Дзіўная, сумная, жудасная мэлёдыя. Навет чувацца словы. Мне няма чаго рабіць, я-ж вам кажу, і калі няма чаго рабіць, тагды можна і паслухаць.

Бай, бай, бай,
Няхай прысьніцца рай.
Сьпі дзіцё спакойна,
Баячкі баю,
Я табе ціхонька
Песеньку сьпяю.
Бай, бай, бай,
Няхай прысьніцца рай.
Вырасьцеш вялікай,
Дзяўчынка мая,
Будзеш калысаючы
Пяяць, як пяю я.
Бай, бай, бай,
Няхай прысьніцца рай.
А калі ён здрадзіць,
Ты кінджал вазьмі,
Ноччу паціхоньку
Ты ў яго ўстрамі
Бай, бай, бай....

„Калі ен здрадзіць...“ Навошта гэта?.. Хто гэты сумны пявун; хто гэта там ў лепшых гадох свайго жыцьця хавае сваё пачуцьцё? Які вар'ят разьдзірае на кавалкі сваё сэрца, растраўляе свае раны?.. Вялікая павінна быць рана... Нешта ўспамінаецца... І раптам мозаг праразае вар'яцкая па сваёй магутнасьці думка: ўзяць кінджал, гэта калі ён, ці яна здрадзіць; а калі яны здрадзяць?.. Чаму ты змоўк, пявун? Я чакаю адказу, чуеш ты, вар'ят?!

Прыпамінаюцца словы Я. Ш.

Бываюць раны вялікія і малыя...
Меншыя загаіваюцца зусім і не пакідаюць па сабе сьледу.
Вялікшыя таксама загаіваюцца, але пасьля іх застаецца рубец.
Так на целе.
Бываюць раны вялікія і малыя...
Меншыя загаіваюцца, але пасьля іх астаецца рубец.
Вялікшыя сочацца крывёю.
Так на сэрцы.
Бываюць раны вялікія і малыя...
Меншыя заўсёды сачацца крывёю.
Вялікшыя загоівае толькі сьмерць.
Так на душы.
Чуеш ты пявун? Раны на душы балючэй, чымся на сэрцы!
Калі ён здрадзіць... Але... А калі яны здрадзяць?..

В. Мурын-Базыльянскі.

* * *

Вечар быў пекны... ні дожджу, ні ветру
Полымем рожавым хмары гарэлі.
Ціха качаліся ў сінім паветры
Сьветла-зялёных галін гугарэлі...
Фарбамі зьзяла зямля...
Дзіўнымі, помню, здаваліся мне хмаркі,
Захад чырвоны й чырвонае сонца,
У садзе чаромхі пах востры і яркі,
Нейкая туга—трывога бязконца
Слоў расказаці няма...
Помню, ў той вэчар вясна мне здавалась
Пекнай багіней, а смутнай чагосьці,
Сьмела й нясьмела мне аглядалась,
Нібы прыйшла на хвілінку, у госьці,
Штось бы чакала яна...
Сьветлыя косы на смутнай галоўцы
Золатам тускла старым аглівались,
Сінім вяночкам на самай вярхоўцы,
Сінім вяночкам з фіалак вянчаліcь.
Уперад глядзела вясна...
Вочы нябачанай фарбы, бы ў моры
Сіне-зялёныя хвалі блішчэлі,
З спушчаных бледных, пацекаў бы зоры
Дзіўна-прыгожаю думкай ясьнелі,
Вабілі чарамі сна...
Броўкі істужкай віліcь сабалінай,
Шчочкі зарою маёвай пылалі...
Йшла і хісталась... бы ветрык з калінай
Вечар гуляў з ёй... А дрэвы маўчалі,
Бо засыпала зямля.
Дрэвы маўчалі і ня чутна цягнуліcь
К ценю, імгле наступаючай ночы...
Ціха галінкі калыхаліcь, гнуліcь
І падымала вясна свае вочы,
Слухала штосьці яна...
Слухала мову зямлі раўнадушнай,
Людзкай душы ледзьве чутныя крыкі,
Слухала гутарку ночкі тэй душнай,
Слухала й мучылась... бо на ўсе зыкі
Слоў адказаці няма..
Мучылась... вочы хаваліcь за ймглою,
Уся апускалась, бы вецьце бярозы
І ціха каціліcь з вачэй, дарагою
Нізкай зямчужнаю, буйныя сьлёзы,
Людзі-ж казалі—раса...

Натальля Арсеньнева.

# ХРОНІКА.

У 1-ай Віленск. Беларускай гімназіі занятікі кончыліся 31-га траўня.

Выпускныя экзамены кончыліся 14 чэрвеня. Гімназію скончылі на атэстат цасьпеласьці беларусы: 1) Аляксюк Валерыян, 2) Арсеньнева Натальля, 3) Б.-Асмалоўшчынка Галіна, 4) Б.-Асмалоўскі Богдан, 5) Акушчанка Вольга, 6) Валадзіміршчынка Ганна, 7) Васільлева Марыя, 8) Клімовіч Адольф, 9) Лабуцянка Ганна, 10) Леткевіч Мікола, 11) Макоўшчынка Ліда, 12) Недзьвеччынка Кляўдыя, 13) Пуська Аляксандр, 14) Сасноўскі Аляксандр, два экстэрны: Дварчанін Ігнат і Станкевіч Янка. Агулам скончыла Беларускую Гімназію 16 чалавек беларусаў. Апрыч таго скончылі Беларускую гімназію 25 чалавек небеларусаў.

Заняткі ў 1-ай В. Б. Г. пачнуцца 1-га верасьня. Уступныя экзамены ува ўсе клясы пачнуцца ў палове жніўня.

Выпускны акт-вечар матурыстаў 1-ае Віленскае Беларускае гімназіі, з багатай праграмай, адбудзецца ў суботу 25 чэрвеня, ў памяшканьні салі гімназіі. Пачатак а 7 гадз. увечары. Пасьля праграмы танцы ўсю ноч.

Экскурсія вучн. 1-ае Віл. Бел. гімназіі праэктуецца пад канец чэрвеня. Аб усім даведацца можна ў рэдакцыі „М. Ж.“.

Беларускі народны хор арганізуецца і распачаў рэпэтыцыі (Саля Белар. гімн.). Там-жа прыём новых хорыстаў.

# Свая пошта.

Вяршыніну Міколе ў Празе. Высланае Вамі, апрыч перакладу з „Narodni Listy“ і „Maguarorszag“, атрымалі і карыстаем. Шчырая Вам падзяка за добрыя рады. Просімо больш.

Сенкевічу Ст. ў Ляхавічах. Грошы атрымалі. Газэту пасылаем.

Хомічу Францішу. Газэту пасылаем. Пашырайце яе сярод равесьнікаў і шукайце абонэнтаў.

Пачынаючым поэтам. Рэдакц. „М. Ж.“ мае ўжо некалькі твораў маладых і наагул пачынаючых пісьменьнікаў. Пры памысным даплыве новых твораў, апошнія будуць выданы асобным выпускам. Дык не наракайце, калегі, за незамяшчэньне ўсіх твораў у гэтым нумары і працуйце дальш. Праца на марне ня пойдзе!

Друкарня „ДРУК“, Субоч, 2. Рэдактар і выдавец Аляксандр Пуська.